# ІНФОРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ БЕЛКООПСАЮЗУ

ВЫХОДЗІЦЬ АДЗІН РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

13-га КАСТРЫЧНІКА 1928 г.



# № 2

ПЕРШЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ БЕЛКООПСАЮЗУ



# ЗЬМЕСТ.



---

## Да ведама Інструктароў саюзаў і рахункаводаў спажывецкіх таварыстваў

У формах „Плян дзейнасьці Спажывецкага таварыства“ і „плян (кантрольныя лічбы)“, заўважаны наступныя памылкі, якія неабходна паправіць.

**1) У форме квартальна-месячнага пляну:**

На 1-й старонцы ў разьдзеле „Паявы капітал“ надрукована: „Лічыцца на пачатак м-ца“, „Паступленьне за месяц“, „стан на канец м-ца“. Патрэбна замест слова месяц» напісаць „пэрыяд“, бо плян можа складацца і на месяц і на квартал.

На 2-й старонцы. Абедзьве калёнкі паступленьне тавараў па асартымэнту (па пляну і фактычнае) павінны запаўняцца сумамі па прадажнай цане. За гэтым надрукаванае „Фактычнае паступленьне па пакупной цане“ патрэбна чытаць „Фактычнае паступленьне па **прадажнай цане**“.

**2) У форме „Плян (кантрольныя лічбы)“.**

У разьдзеле „Гандлёвая работа“ п. 13 патрэбна чытаць „Сярэдні продаж **на гаспадарку ў год**“.

На 3-й старонцы, у табліцы „Каштарыс“ надрукована ў групе выдаткаў зарплата служачым, „Гандлёвых і вытворчых прадпрыёмстваў“. Патрэбна чытаць „**Гандлёвых і загатоўчых прадпрыёмстваў**“, бо па рахунку „Вытворчасьці“ ў каштарыс павінен выносіцца чысты вынік (прыбытак і страта). У выглядзе заўвагі (унізу табліцы) павінна быць паказана агульная сума выдаткаў па вытворчых прадпрыёмствах.

**Оргкіраўніцтва БКС**




*Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!*

# ІНФОРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ БЕЛКООПСАЮЗУ

ВЫХОДЗІЦЬ АДЗІН РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Адрас: Менск, Савецкая вул., № 43.

| № 2 | 13-га кастрычніка 1928 г. | № 2 |
|---|---|---|

## Пэрспэктывы тавараздавальненьня на 1928—29 г.

**Баваўняна-папяровая мануфактура:**—На працягу ўсяго году тавар гэты быў у вялікім недахопе. Асабліва моцна адчуваўся недахоп у бельлявой тканіпе (міткалявыя хусткі), зімніх і летніх плацьцявых групах. Некаторую дапамогу, асабліва ў групе адзеньня, зрабіла наяўнасьць дагавору з Дняпроўскай Мануфактурай.

На падставе папярэдніх матар'ялаў па завозе можна чакаць атрыманьня ў 1928-29 апэр. годзе каля 600 вагонаў баваўняна-папяровай мануфактуры, або на 18.850 тыс. руб. Заяўкі Райсаюзаў і ЦРК складаюць звыш 25 міл. рублёў. Такім чынам, значнага палепшаньня ў здавальненьні баваўняна-папяровай мануфактуры чакаць ня прыходзіцца, асабліва ўлічваючы натуральны рост спажываньня.

**Суконна-шарсьцяная тканіна:**—Недахоп адчуваўся па ўсіх відах гэтага тавару, што пацьвярджаецца таксама рэалізацыяй без астатку груба-шэрстнага сукна Якаўлевіцкай фабрыкі, надзвычайна нізкай якасьці і па значна ўзвышаных цэнах.

З прычыны таго, што доля рыначнай прадукцыі трэстаў зьменшана за лік здачы большага проценту прадукцыі вытворчым арганізацыям, чакаць у 1928-29 г. значнага палепшаньня ў здавальненьні коопэрацыі суконна-шарсьцянымі таварамі ня прыходзіцца.

Намі вызначаецца па пляну на 28-29 год атрымаць суконна-шарсьцяных тавараў на 3.700 тыс. руб., з якіх на 300 тыс. руб. Якаўлевіцкай фабрыкі, супроць заяўкі, якая маецца ад Райсаюзаў і ЦРК на суму 7.678 тыс. руб.

**Ільняная тканіна:**—У першы раз гэты тавар пераходзіць у групу востра-дэфіцытных. З прычыны агульнага недахопу бельлявой баваўняна-папяровай тканіны—ільняны тавар знаходзіць збыт у вёсцы, што раней прыкмячалася зусім у нязначных разьмерах.

Наша меркаваньне атрымаць на 1928-29 опэр. год ільняной тканіны на 1 міл. рублёў, ня будзе адпавядаць спажывецкаму попыту, што пацьвярджаецца заяўкамі, якія маюцца ад Райсаюзаў і ЦРК на суму 1.352 тыс. руб.



**Шоўкавая тканіна:**—У першы раз уводзіцца ў наш гандлёвы зварот шоўкавая тканіна, якой па пляну 1928-29 году мы чакаем атрымаць на 200 тыс. руб. Няма сумненьня, што тавар гэты шырока прысоўваецца ня толькі ў гарадох, але і ў вёсцы. Шоўкавы тавар шырока скарыстоўваецца замест дарагой шэрсьцяной тканіны, а таксама ў выглядзе падкладкі па пальто і гарнітуры.

**Галянтарэя, трыкатаж і ніткі**—Цэлы рад прадметаў гэтай групы зьяўляюцца востра-дэфіцытнымі, у асаблівасьці ўвесь трыкатаж дзяржтрэстаў. Загэтым, у бягучым годзе ў першы раз устаноўлена больш моцная сувязь з Усекапрамсаюзам і Белсампрамсаюзам па рэалізацыі прадукцыі саматужна-прамысловай кооперацыі. З Белсампрамсаюзам маецца рад дагавораў на: панчохі, вату, коўдры, цэлулойдавыя і рагавыя грэбяні, гальштукі і кашнэ, самавязі і інш., большасьць з якіх выканана поўнасьцю.

Белкоопсаюз лічыць неабходным у 1928-29 годзе значна разьвіць звароты з галянтарэяй і трыкатажам і давесьці да 8 міл. руб. Заяўкі Райсаюзаў і ЦРК складаюць 8.168 тыс. руб.

Цэнтрасаюзам будзе атрымана ў 1928-29 годзе: сіндзіцір. гал. трыкатажу на суму 103 міл. рублёў, супроць мін. году—53 міл. руб. і ад Усекапрамсаюзу 22 міл. руб. (12 міл. руб. Усекапрамсаюзу і 10 міл. руб. Москапрамсаюзу). Акрамя гэтага намі вызначана да атрыманьня трыкатажна-галянт. тавараў ад Белсампрамсаюзу на 900 тыс. руб., супроць 325 тыс. руб. у мінулым годзе. Такім чынам ісnуе значная ўпэўненасьць, што мы будзем мець магчымасьць у асноўным забясьпечыць спажывецкі попыт праз кооперацыйную сыстэму.

**Скураныя тавары:**—Неабходна адзначыць скарачэньне зваротаў па скуртаварам, прычым хром, які меў у зваротах 26-27 г. асноўнае значэньне—зусім выпаў са звароту, а другі па значэньню тавар—падлувал—значна скарочан. Такім чынам, асноўная маса рэалізаваных скуртавараў у 1927-28 опэр. годзе прыпадае на падэшвенную скуру і раскрой.

Цэнтрасаюз разьлічвае атрымаць праз Б.К.С. скуртавараў на суму 40 міл. руб. Норма скуртавараў, на якую мы можам разьлічваць атрымаць у 1928-29 годзе, пры наяўнасьці заявак на 5.062 тыс. руб. складзе ня больш 2 міл. руб., прычым асабліва значна будзе скарочана колькасьць падэшвеннай скуры.

Здавальненьне попыту на скуртавары павінна быць перакінута на закупку гатовага абутку.

**Гатовы абутак:**—За 1927-28 год прадана гатовага абутку на 1.280 тыс. руб. Плян на 1928-29 г. прадугледжвае рэалізацыю ў суме 2.500 тыс. руб., пры заяўках райсаюзаў і ЦРК на 2.670 тыс. руб.

Рэалізацыя абутку сыстэмай будзе значна вышэй лічбы прадугледжанай плянам, што пройдзе за лік непасрэдных заказаў мясцовым саматужнікам і працкалектывам. З прычыны недастатковай цэнтралізацыі прадукцыі саматужных арцеляў, гэты зварот на 1928-29 год ня зможа быць цэнтралізаваны Белкоопсаюзам.

**Галёшы:**—Па дагавору з Гуматрэстам на 1928-29 год мы атрымаем 400 тыс. пар галёш і па Цэрабсэкцыі 152 тыс. пар. Прымаючы пад увагу, што да канца 27-28 году галёшы былі блізка да

дэфіцытнасьці і, што заяўкі арганізацый на 28-29 год складаюць 678 тыс. пар (467.285 пар па сельскай і 210.688 пар па гарадзкой), патрэбна думаць, што ў бягучым годзе будзе адчувацца недахоп галёшаў.

**Гатовае адзеньне:**—Рост гандлю гатовым аддзеньнем адбываецца пераважна ў горадзе. Асаблівасьцю гэтага гандлю зьяўляецца неабходнасьць большай разнастайнасьці асартымэнту.

Наяўнасьць у БССР швэйнага трэсту дазваляе нам разьлічваць, што асаблівай вострага недахопу гатовага адзеньня ў нас ня будзе.

Акрамя таго, мы можам разьлічваць на атрыманьне з «Ленінградадежды» гатовага адзеньня на суму 500 тыс. руб., але на вельмі жорсткіх умовах разьліку, зьвязанага з авансіраваньнем.

Па пляну на 28-29 год вызначана рэалізацыя гатовага адзеньня на 6 міл. руб. (у 27-28 г.—3,7 міл. руб.).

**Мяхі:**—Закупка мяхоў у першы раз у 1927-28 г. на суму 165 тыс. руб. упаўне сябе апраўдала. Намі мяркуецца закупіць мяхоў у 1928-29 г. на суму 600 тыс. руб., пры заяўках райсаюзаў і ЦРК у суме 554 тыс. руб. Гандаль памянёным таварам мяркуецца згрупаваць у асноўным у буйных арганізацыях, якія могуць утрымоўваць спэцыяліста, без якога гандаль гэтым таварам надзвычайна рызыкаваты.

**Соль:**—У сучасны момант спажыўкоопэрацыя займае ў агульным саляным звароце БССР 98,5 проц. Дагавор на будучы год яшчэ не падпісаны, але мяркуецца захаваньне мінулагодніх умоў разьліку, калі коопэрацыя поўнасьцю возьме на сябе хаваньне саляных запасаў па норме ПК Гандлю.

**Цукар:**—У звароце з цукрам мы займаем 72 проц. На 1928-29 г. прадугледжана рэалізаваць праз спажыўкоопэрацыю 1.300.000 пуд. Дагавор з Цукратрэстам заключаны на 1.150.000 пуд. з правам павялічэньня колькасьці да 25 проц. Умовы разьліку зьменены: скідка 45 кап. з пуда, або 8 з пал.% з безакцызнай цаны замест 7 з пал. у мінулым годзе; крэдыт 50 дзён (замест 45); авансы выдаюцца толькі на 1 квартал і студзень м-ц, у далейшым авансы адмяняюцца. Цукар новага ўраджаю мяркуецца атрымаць — пясок у апошніх лічбах кастрычніка і рафінад—з другой паловы лістапада.

У сучасны момант мяркуецца ліквідацыя цукравога гандлю Хлебапрадукту і перадача гэтай колькасьці спажыўкоопэрацыі. Таксама ставіцца пытаньне аб перадачы запасаў Цукратрэсту спажыўкоопэрацыі на хаваньне на дагаворных пачатках. Гэтым самым будзе і вырашана пытаньне аб ліквідацыі аддзяленьня Цукратрэсту.

**Газа:**—У рэалізацыі газы мы працягваем займаць недастатковае мейсца—каля 66 проц. Пытаньні дагавору на будучы год амаль узгоднены на ўзроўні ўмоў мінулага году. Ня вырашаным пакуль-што засталося пытаньне аб арэндзе больш буйных мястэчкавых і гарадзкіх складаў.

**Рыбтавары:**—Пакуль што мы маем дагавор на 399 вагонаў селядцоў касьпійскіх, астраханскіх і ціхаакіянскіх. Акрамя гэтага мы прадугледжваем атрымаць яшчэ 130 ваг. нормы былой Гомельскай Канторы і імпартных 117 вагонаў. Рыбы часьціковай і таранкай на 700 тыс. руб. Колькасьць здавальняе нашу патрэбнасьць на селядцы на 60-70 проц., на тараны і салоную рыбу—40-45 проц. Умовы разьліку засталіся без зьмяненьня.

**Запалкі:**—Дагавор затрымліваецца перамовамі Цэнтрасаюзу з Запалсындыкатам; наогул мяркуецца захаваньне мінулагодніх умоў. Мы патрабуем ураўненьне цаны, незалежна ад нормы адпраўкі. Гэта дасьць магчымасьць фарсіраваць транзытныя апэрацыі.

**Табвырабы:**—У перамовах аб дагаворы на будучы год мы ўносім зьмяненьне ў бок павялічэньня збыту махоркі мясцовай прамысловасьці. Па гендагавору з Махорсындыкатам намі павінна быць выбрана 40 тыс. скрынак Віцебскай, 10.000 скрынак Роменскай і 10.000 Чаркаскай махоркі. Недастатковая колькасьць махоркі папаўняецца мясцовай прамысловасьцю Менсельпрому і Бабруйскага Камбінату.

Па папяросах мы ўдзельнічаем у гендагаворы з Ленінградзкім Габактрэстам на 150 міл. штук і з Моссельпромам—25 міл.

**Хімтавары:**—Заключаны дагавор на содавую прадукцыю, пры чым наша заяўка на піцьцявую соду ўрэзана да 700 тон, пры заяўцы 1.500 тон, акрамя гэтага 160 даецца фасоўкі. Заяўка на шчолак здаволена на 75 проц., а 25 проц. застаўлена сьціральнага парашку. Мыла гаспадарчае—наша заяўка 250 вагонаў. Затрымка ў падпісаньні дагавору адбываецца з прычыны нашага адмаўленьня ад прымусовага ўключэньня ў дагавор туалетнага мыла «Ленжэта». Анілінавыя краскі мы, па прыкладу мінулага году, будзем атрымоўваць праз Цэнтрасаюз. Як відаць, нам прыдзецца частку гаспадарчага мыла атрымаць ад мясцовай інваліднай і саматужнай прамысловасьці.

**Мэталы:**—Сартавога жалеза мы атрымаем 1.200 тон, супроць 1.800 тон у мінулым годзе. Такое становішча тлумачыцца павялічэньнем удзельнай вагі сельгаскоопэрацыі за лік скарачэньня гандлю спажывецкай, пры павялічэньні нашага ўдзелу ў гандлі гаспадарчымі таварамі і гаспадарчай пасуды. Кровельнага жалеза нам будзе адпушчана трохі больш, чым у мінулым годзе, маючы на ўвазе прадугледжваемае будаўніцтва коопэрацыйнай сыстэмы. Дагавор яшчэ не заключаны, але на I квартал маецца часовая згода між ВМС і Цэнтрасаюзам на ўмовах мінулага дагавору.

**Сілікаты:**—Новы дагавор з Продасілікатам падпісаны на ўмовах мінулага дагавору з наступнымі корэктывамі: 1) норма вaконнага шкла скарочана да 100 вагонаў; 2) адгрузка квартальнай нормы прапарцыянальна па 1/3 вагону ў месяц; 3) Украінскі фаянс і фарфар замацаваны поўнасьцю за украінскімі організацыямі і нам вылучана 10 проц.

**Бакалея:**—Рысам мы будзем здаволены ня больш як на 50 проц. нашай заяўкі.

Дагавор на алей сланэчны яшчэ не падпісаны. Згодна пляну завозу нам належыць сланэчнага алею 190.000 пудоў і ільнянага 18.000 пуд.

Па кандытарскіх вырабах мы маем пакуль-што дагаворы з Моссельпромам на 80 тыс. руб., з Харкаўскім Харчтрэстам на 300 т. руб. і прадугледжваецца заключэньне дагавору з Ленінградзкім Харчтрэстам на 300.000 руб.

Па сухасадавіне пакуль што дагавор заключаны толькі з Цэнтрасаюзам. З Плодавінсаюзам дагавор яшчэ не падпісаны.

---

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Аб распаўсюджваньні кнігі

*Усім арганізацыям УсеЛКСМ, усім спажыўсаюзам, спаж. т-вам, цэрабкопам і гарадзк. спаж. т-вам*

**Дарагія таварышы!**

Справа распаўсюджваньня кнігі сярод рабочых і сялян знаходзіцца яшчэ ў вельмі нездавальняючым становішчы. Трэба карыстацца кожным падыходзячым выпадкам, каб прывабіць увагу таварышоў да гэтай задачы.

„Культурны паход", які праводзіцца камсамольскімі арганізацыямі—кампанія вялікай грамадзка-культурнай важнасьці, павінен быць самым шчыльным чынам зьвязаны з працай па распаўсюджваньні кнігі. Спажыўкаапэрацыя, якая можа і павінна быць асноўным каналам на прасоўваньне кнігі ў вёску, будзе мець магчымасьць пасьпяхова будаваць сваю кнігагандлёвую сетку толькі ў тым выпадку, калі найбольш актыўныя і шматлікавыя ў вёсцы арганізацыі камсамолу ўчыняць каапэрацыі ў справе распаўсюджваньня кнігі гарачае падтрыманьне і дапамогу.

Дзеля гэтага ў зьмест культурнага паходу, які зараз праводзіцца, неабходна ўключаць таксама пытаньні практычнай дапамогі распаўсюджваньню кнігі спажыўкаапэрацыяй.

Сумесна з арганізацыямі спажыўкаапэрацыі камсамольскія камітэты і ячэйкі павінны вызначаць пляны практычных мерапрыемстваў прапаганды кнігі шляхам наладжваньня спэцыяльных вечароў, гучных чытак, наладжваньня выставак, рынкаў і г. д. Асобна трэба абмеркаваць пытаньне аб стварэньні кніганошачных атрадаў з камсамольцаў.

Тыя каапэрацыйныя арганізацыі, якія да гэтага часу яшчэ не распачалі працу з кнігай, трэба пабудзіць пачаць гэту справу. Праз камсамольскія арганізацыі неабходна дабіцца прыцягненьня да ўдзелу ў рабоце з кнігай тых таварышоў, якія зьвязаны з мясцовымі культурнымі ўстановамі.

Культурны паход камсамолу павінен быць паходам у працоўныя масы з кнігай.

Сэкратар ЦК УсеЛКСМ **Шыраўеў**

Сябра Праўленьня Цэнтрасаюзу **Г. Зіноўеў**

*Усім саюзам цэрабкопам і спажыўтаварыствам БССР*

19-га верасьня Праўленьнем Белкоопсаюзу і ЦК ЛКСМБ быў разасланы ліст за № 9775 усім камсамольскім і спажывецкім коопэрацыйным арганізацыям аб правядзеньні культурнага паходу камсамолу, у якім раіцца садзейнічаць спажыўкоопэрацыі ў справе распаўсюджваньня кнігі сярод насельніцтва, асабліва вясковага.

Зьмяшчаючы вышэй абежнік ЦК УсеЛКСМ і Цэнтрасаюзу, просім зараз-жа пасьля яго атрыманьня дагаварыцца аб яго правядзеньні ў жыцьцё з мясцовымі камсамольскімі арганізацыямі, якія-б прымацавалі да кожнага кнігагандлёвага пункту рад камсамольцаў, якім вам належыць адпускаць літаратуру на камісійных умовах. За працу па распаўсюджваньні гэтае літаратуры Вам належыць даваць ім узнагароду ў 10 проц. з сумы прададзеных кніг.

Для распаўсюджваньня кнігі Вам належыць адабраць сялянскай навукова-папулярнай літаратуры і бэлетрыстыкі на беларускай і іншых мовах. Зварочваем Вашу ўвагу на распаўсюджваньне літаратуры на нац. мовах. Аб ходзе гэтай працы просім нас паведамляць.

Старшыня Праўленьня БКС **Наўлянскі** Кансультант **Ахрэмчык**

№ 10682—8-Х-28 г.

---

# Об обязательном взимании гарцевого сбора

*(Постановление Совета Народных Комиссаров Союза ССР)*

В целях организации снабжения деревенской бедноты и усиления государственных хлебных рессурсов Совет Народных Комиссаров Союза ССР **постановляет:**

1. Предложить советам народных комиссаров союзных республик установить на всех мельницах (государственных, кооперативных и частных) обязательное взимание натуральной платы (гарнцевого сбора) за помол зерна.

2. Весь гарнцевый збор подлежит сдаче по конвенционным заготовительным ценам тем государственным и кооперативным организациям, на которые местными органами народных комиссариатов торговли союзных республик будет возложен прием гарнцевого сбора.

3. Сдаваемое в порядке ст. 2 зерно обращается на местное снабжение, преимущественно на снабжение крестьянской бедноты.

4. Весь гарнцевый сбор учитывается местными органами народных комиссариатов торговли союзных республик.

5. Размер гарнцевого сбора, порядок его взимания и использования устанавливаются местными органами народных комиссариатов торговли союзных республик согласно инструкций Народного Комиссариата Внешней и Внутренней Торговли Союза ССР. При установлении размера гарнцевого сбора должна быть предусмотрена такая диференциация его по отдельным районам и видам мельниц, чтобы размеры его не оказались непосильными для мелких мельниц (ветряков) и в то же время не вызвали бы излишнего отлива зерна с крупных мельниц на мелкие.

Зам. Председателя СНК СССР **Я. Рудзутак**

Зам. управделами СНК СССР и СТО **И. Мирошников**

Москва, Кремль, 14 сентября 1928 г.

(Опубликовано в „Известиях ЦИК", 30-IX 28 г. № 228)

---

## Аб цьвёрдай натуральнай памольнай плаце (зярном) за перапрацоўку на дзяржаўных, каапэрацыйных і прыватных млынох і крупадзёрках зярна сялянскіх і іншых прыватных памольцаў.

*(Пастанова № 55, НК Гандлю БССР ад 27 верасьня 1928 г.).*

На падставе пастановы Савету Працы і Абароны ад 31 жніўня 1928 г. (пратакол № 387) і Савету Народных Камісараў БССР ад 5-IX-28 г. (прат. № 58), Народны Камісарыят Гандлю БССР, у зьмену сваёй пастановы ад 6 чэрвеня 1928 г. № 44 («Савецкая Беларусь» ад 8-VI-28 г. № 130) **пастанаўляе:**

1. Устанавіць на ўсіх мукамольных прадпрыёмствах і крупадзёрках, як дзяржаўных і каапэрацыйных, так і прыватных, незалежна ад роду рухавіка (мэханічныя, вадзяныя, конныя, ветраныя і інш.) і таксама ад месца іх знаходжаньня (сельскія, гарадзкія), **абавязковае спагнаньне за перапрацоўку зярна сялянскіх і іншых прыватных памольцаў, выключна натурай—зярном,** забараняючы спагнаньне памольнай платы ва ўсякай іншай форме.

**Увага:** Уплата за памол натурай не распаўсюджваецца на зярно, якое перапрацоўваецца для дзяржаўных і каапэрацыйных арганізацый і Ваенведаў, для каторых захоўваюцца памольныя стаўкі і сыстэма расплаты, якія ўстаноўлены пастановамі Эканомнарады ад 22-VI-27 г., і ад 18-VIII-27 г. і Наркамгандлю БССР ад 14-IX-27 г. і ад 5-II-28 г.

2. Устанавіць цьвёрдую плату натураю (зярном) за перапрацоўку зярна сялянскіх і іншых прыватных памольцаў на мукамольных прадпрыёмствах і крупадзёрках, паказаных у п. I гэтае пастановы, выходзячы з разрахунку раней існаваўшай памольнай платы ў грашовай форме згодна пастановы Эканомнарады ад 22-VI-27 г. і загатоўчай канвэнцыйнай цаны, устаноўленай для раёну, у якім знаходзіцца данае прадпрыёмства ці крупадзёрка (падрабязная табліца адначасова публікуецца ў камэрцыйным бюлетэні «БЕЛКТА») [1])

**Увага 1.** Плата за перапрацоўку зярна павінна спаганяцца толькі тэй культурай, якая прад'яўляецца памольцам для перапрацоўкі.

**Увага 2.** Плата за памол спаганяецца за тую колькасьць зярна, якая фактычна перапрацоўваецца для памольца, ня ўключаючы ў гэту колькасьць зярно, якое спаганяецца за памол.

3. Забараніць млынпрадпрыёмствам дастатковае атрыманьне за памол звыш устаноўленай цьвёрдай платы, як, напрыклад, вотрубі і іншыя адходы, якія павінны поўнасьцю здавацца памольцу.

4. Паказаныя ў п. 1 гэтае пастановы млынпрадпрыёмствы і крупадзёркі абавязаны ўсё паступаючае за перапрацоўку зярно здаваць поўнасьцю Саюзхлебу [2]) і бліжэйшай спажывецкай каапэрацыі па цане, паказанай у п. 5 гэтай пастановы. Прычым Саюзхлебу здаюць млыны і крупадзёркі, якія знаходзяцца ў акруговых гарадох і ў гарадох—

[1]) Табліца надрукована ніжэй, гл. стар. 12—13.

[2]) Гл. заўвагу на стар. 9.

Барысаве, Слуцку, Рэчыцы, Клімавічах і Рагачэве, а спажывецкай каапэрацыі здаюць усе іншыя млыны, якія знаходзяцца ва ўсіх іншых гарадзкіх і сельскіх мясцовасьцях.

5. Саюзхлеб і спажывецкая каапэрацыя прымаюць ад млыноў зярно па памольнаму збору па загатоўчай канвэнцыйнай цане, якая ўстаноўлена для райёну знаходжаньня данага млыну з дапасаваньнем боніфікацыі і рэфакцыі за якасьць зярна, прычым гэта цана выплачваецца франка млын, а дастаўка зярна на склад Саюзхлеба, альбо каапэрацыі можа ўтварацца млынпрадпрыёмствам па абаюднай згодзе за плату па фактычнаму кошту перавозкі.

6. Памольны збор павінен здавацца млынпрадпрыёмствамі Саюзхлебу і спажывецкай каапэрацыі ў зярне, прычым перапрацоўка яго ў муку альбо крупу можа ўтварацца даным млынам толькі па абаюднай згодзе за плату грашыма за перапрацоўку, згодна ўвагі да п. 1 гэтай пастановы.

7. Белкаапсаюзу і Саюзхлебу ў пяцідзённы тэрмін са дня апублікаваньня гэтай пастановы абвясьціць усім млынпрадпрыёмствам, якія павінны здаваць ім памольны збор—устаноўленыя для райёну знаходжаньня данага млыну загатоўчыя канвэнцыйныя цэны на зярне ўсіх культур.

8. Млынпрадпрыёмствам вывесіць у млынох на відным месцы табліцу загатоўчых канвэнцыйных цэн і таксама табліцу памольнай платы, існаваўшай раней у грашовай форме, згодна пастановы Эканомнарады БССР ад 22-VI-27 г, і ў натуральнай форме (зярном), адпавядаючай загатоўчым канвэнцыйным цэнам, устаноўленым для данага райёну. Правільнасьць вывешаных табліц павінна правярацца адпаведнымі Акруговымі Інспэктарамі Гандлю і Райвыканкомамі.

9. Млынпрадпрыёмцы абавязаны зрабіць гадавыя дагаворы [1]) з Саюзхлебам і спажывецкай каапэрацыяй, па прыналежнасьці, на здачу апошнім усяго памольнага збору, які паступіць ад памольцаў за перапрацоўку на працягу тэрміну дагавору, якім прадугледжваюцца няўстойкі і адказнасьць па суду за няпоўную здачу памольнага збору.

**Увага**: Колькасьць зярна памольнага збору, падлягаючага здачы на працягу апэрацыйнага году, арыентыровачна вызначаецца па дагавору, выходзячы з разьмеру нагрузкі млыну, вылічанай органамі НКФ пры абкладаньні іх падаткамі.

10. Для кантролю за правільным спагнаньнем млынпрадпрыёмствамі ад памольцаў памольнага збору Саюзхлебу і спажыўкаапэрацыі забясьпечыць млынпрадпрыёмствы пранумараванымі і прапячатнымі з карашкамі квітанцыйнымі кніжкамі [2]), з якіх млынпрадпрыёмствы павінны выдаваць памольцам квітанцыі ў прыняцьці ад апошніх памольнага збору, з паказаньнем колькасьці і культуры зярна.

11. Саюзхлеб і спажыўкаапэрацыя павінны сваячасова забіраць ад млыноў памольны збор, ня зьбіраючы буйных партый, а зьбіраць па магчымасьці па меры награмаджэньня колькасьці аднэй падводы,

[1]) Прыкладны дагавор надрукован ніжэй, гл. стар. 9.
[2]) Прыкладная квітанцыя надрукована ніжэй, гл. стар. 11.

прычым пры награмаджэньні партый зярна у разьмеры ад 8 цэнтнэраў і больш млынпрадпрыёмцы павінны безадкладна абвясьціць аб гэтым Саюзхлеб альбо каапэрацыю, якія павінны забраць гэты хлеб у трохдзённы тэрмін.

12. Ва ўсіх млынапрадпрыёмствах і крупадзёрках завесьці штодзённы запіс усяго перамолатага за дзень зярна, а таксама ўсіх наступаючых за памол хлебапрадуктаў па асобным культурам, з паказаньнем за які памол апошнія атрыманы.

13. Белкаапсаюзу і Саюзхлебу арганізаваць прыёмку іх філіяламі ад млынапрадпрыёмстваў і крупадзёрак памольнага збору і ўстанавіць адпаведны кантроль за поўным і сваечасовым атрыманьнем апошняга.

14. Нагляд за выкананьнем гэтай пастановы ўскладаецца на акруговых інспэктароў гандлю, райвыканкомы, сельсаветы і міліцыю.

15. Гэта пастанова ўваходзіць у дзейнасьць з моманту яе апублікаваньня.

16. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы падлягаюць адказнасьці паводле артыкулу 141 Крым. Кодэксу.

Наркамгандлю БССР **Адамайціс**

(Абвешчана ў «Сав. Беларусі» ад 28/IX-28 г. № 224)

**ЗАЎВАГА.** Дадатковаю пастановаю НК Гандлю БССР ад 4-га кастрычніка 1928 г. № 1 здача памольнага збору Саюзхлебу ў акруговых гарадох і ў гарадох Барысаве, Слуцку, Рэчыцы, Клімавічах і Рагачэве адменена. Увесь памольны збор па ўсёй БССР павінен здавацца выключна спажывецкай каапэрацыі. Усе дагаворы, якія заключыў з млынапрадпрыемствамі Саюзхлеб, пераходзяць да адпаведных спажывецкіх каапэрацыйных організацый.

**ТЛУМАЧЭНЬНІ БЕЛКООПСАЮЗУ:** 1) Дагаворы са спажыв. таварыствамі павінны заключыць усе млынапрадпрыемствы: прыватныя, саўгаскія і іншыя дзяржаўныя коопэрацыйныя і грамадзкія (п. 9 паст. НКГандлю). 2) Колькасьць памольнага збору ў першы пункт дагавору ўключаецца ў разьмеры звароту прадпрыемства, вызначанага ў 1927-28 г. фіноргaнамі пры абкладаньні ўраўзборам (увага да п. 9 паст.). 3) Адказ млынапрадпрыемства ад заключэньня дагавору абавязвае сп. т-ва паведаміць аб гэтым райвыканком для прыцягненьня млынапрадпрыемства да адказнасьці (арт. 14 і 16 паст.). 4) Парушэньне млынапрадпрыемствам дагавору адначасова ёсьць парушэньне пастановы НКГандлю № 55. Пагэтаму млынапрадпрыемствы прыцягваюцца разам да крымінальнай і грамадзянскай адказнасьці.

*Прыкладны*

# ДАГАВОР

1928 г. кастрычніка ———— дня. Ніжэйпадпісаўшыяся: ———— які называецца ў далейшым «Млынапрадпрыёмства» з аднаго боку і ———— Спажывецкае Т-ва ў асобе старшыні праўленьня ———— якое называецца ў далейшым «Таварыства»,—з другога боку заключылі гэты дагавор аб наступным:

1. „Млынапрадпрыёмства“ абавязуецца ў адпаведнасьці з пастановай НК Гандлю БССР ад 27-IX-28 г. № 55 („Савецкая Беларусь“ ад 28-IX—28 г. № 224) здаваць Т-ву ў працягу 1928-29 г. увесь памольны збор, які будзе паступаць ад сялян і іншых прыватных памольцаў за перапрацоўку іх зярна на млыне (крупадзёрцы), які знаходзіцца ў (пры) вёсцы ———— с.-савету.

2. Колькасьць зярна ўсіх культур, якая падлягае здачы па гэтаму дагавору т-ву, вызначаецца арыентыровачна ў (прописам) ———— пудоў і павінна быць здадзена ў наступныя тэрміны:

| | | | |
|---|---|---|---|
| У кастрычніку 1928 г. | ———— пуд. | красавіку 1929 г. | ———— пуд. |
| „ лістападзе „ | ———— „ | „ травені „ | ———— „ |
| „ сьнежні „ | ———— „ | „ чэрвені „ | ———— „ |



| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| „ студзені 1929 г. | ———— | „ | ліпені | „ | ———— „ |
| „ лютым | „ ———— | „ | жніўні | „ | ———— „ |
| „ сакавіку | „ ———— | „ | верасьні | „ | ———— „ |

3. Т-ва абавязана выдаць млынапрадпрыёмству пранумэраваныя і за сваёй пячаткаю квітанцыйныя кніжкі з карашком, а млынапрадпрыёмства абавязана выдаваць гэтыя квітанцыі ўсім памольцам, як прыватным, так і дзяржаўным, коопэрацыйным, пры паступленьні ад іх зярна на прадпрыёмства, і астаўляць у кніжцы карашкі квітанцый. У квітанцыю (і карашок) запісваюцца наступныя зьвесткі: калі, ад каго, з якой вёскі, або ад якой установы прынята для перапрацоўкі зярнё, род і колькасьць зерня, колькі атрымана памольнае платы грашыма і зярнём.

Заўвагі: 1) За няпісьменнага памольца карашок падпісваецца кім-небудзь з пісьменных памольцаў.

„ „ 2) Квітанцыі і карашкі пішуцца ў момант здачы зерня памольцамі на млынапрадпрыёмства.

„ 3) Забараняецца трымаць у памяшканьнях млыну ўласнае зярнё арандатара ці ўласьніка млынапрадпрыёмства.

„ 4) На карашкох павінен быць подпіс памольца адзін раз пры здачы зярна на прадпрыёмства, другі раз пры атрыманьні перапрацаванага прадукту з млыну.

4. Т-ва мае права ва ўсякі час рабіць праверку выкананьня гэтага дагавору млынапрадпрыёмствам, для чаго прадстаўнік т-ва можа ўваходзіць ва ўсе памяшканьні млыну, правераць квітанцыйныя кніжкі, наяўнасьць у гэтых памяшканьнях зерня памольцаў і памольнага збору і адпаведнасьць наяўнасьці паказаньням у карашкох квітанцыйных кніг. У выпадку неадпаведнасьці наяўнасьці запісам у карашкох прадстаўнік т-ва павінен скласьці акт за подпісам прадстаўніка сельсавету, Акрвыканкому або дзьвюх староньніх асоб.

5. Т-ва абавязана забіраць памольны збор з прадпрыёмства безадкладна, не дапускаючы яго зграмаджэньня больш, як пад'ёмнасьць аднае падводы. Па згодзе з млынапрадпрыёмствам апошняе можа дастаўляць памольны збор на прыёмныя пункты т-ва. У прыёме памольнага збору т-ва выдае млынапрадпрыёмству адпаведную расьпіску.

6. Вызначаная ў першым пункце дагавору арыэнтыровачная колькасьць памольнага збору становіцца абавязковай і падлягае здачы т-ву поўнасьцю, ня гледзячы на тое, што па паказаньнях у карашкох квітанцый наступіла меншая колькасьць, у наступных выпадках:

а) Калі будзе складзены акт згодна п. 4 дагавору.

б) Калі будзе даказана, што чыё-небудзь зярнё было апрацавана бяз выдачы квітанцыі, або што ў квітанцыю занесены няправільныя даныя.

в) Калі будзе даказана, што млынапрадпрыёмства прадавала каму-небудзь збожжа, або абменьвала на тавары.

г) Калі будзе ўстаноўлена парушэньне млынапрадпрыёмствам парадку вядзеньня квітанцыйных кніг, азначанага ў п. 3 дагавору.

7. За атрыманыя ад млынапрадпрыёмства прадукты т-ва абавязана безадкладна заплаціць яму каштоўнасьць іх па загатоўчых канвэнцыйных цэнах, якія ўстаноўлены для раёну знаходжаньня млынапрадпрыёмства, а таксама каштоўнасьць яго дастаўкі, калі такая будзе зроблена млынапрадпрыёмствам (п. 5 дагавору).

8. Пры выкананьні гэтага дагавору стораны павінны кіравацца, апрача дагавору, пастановай Наркамгандлю ад 27-IX—28 г. № 55 і наступнымі яго пастановамі і распараджэньнямі, якія будуць выдадзены па гэтаму пытаньню.

9. Парушэньне дагавору выклікае для вінаватае стараны абавязак заплаціць другой старане няўстойку ў разьмеры 25 проц. каштоўнасьці паказанае ў першым пункце колькасьці зёрня і звыш таго правая старана можа патрабаваць поўнага выкананьня дагавору.

10. Адрасы старон: Млынапрадпрыёмства ————————————

———————————— т-ва ————————————

Подпісы:

*Прыкладная квітанцыя*

Млынапрадпрыёмства ____________

**Карашок №** ______

______________ 192 г.

Прынята ад ______________ вёскі ____________ для перапрацоўкі (назва збожжа) ________ кгр. ________

______________________ (паўтарыць прописам)

Атрымана памольнае платы ________ кгр. (або руб., калі плаціцца грашыма)

**Подпіс** (прадпрыёмства)

**На адвароце карашку:**

Паказанае на адвароце збожжа млыну здаў (подпіс здатчыка).

Пасьля перапрацоўкі атрымаў (подпіс)

Млынапрадпрыёмства ____________

**Квітанцыя №** ______

______________ 192 г.

Прынята ад ______________ ______ вёскі ______________ для перапрацоўкі __________ кгр ______

______________________

Атрымана памольнае платы ________ кгр.

**Подпіс** (прадпрыёмства)

## Пра непадачу Народнаму Камісарыяту Гандлю вестак аб хлебных і сыравінных апэрацыях

### Эканамічная Нарада пры Савеце НК БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць т. т. Наўлянскага і Аксючыца накласьці адміністрацыйнае спагнаньне за несваячасовую падачу зьвестак па хлебных і сыравінных апэрацыях на наступныя арганізацыі:

а) Па лініі спажывецкай каапэрацыі; Барысаўскае аддзяленьне БКсаюзу, Бабруйскі саюз, Віцебскі саюз, Мазырскае аддзяленьн Гомельскага саюзу, Віцебскі, Магілеўскі і Полацкі цэнтральныя рабочыя каапэратывы.

б) Па лініі с.-г. каапэрацыі: Мазырскі, Віцебскі і Полацкі саюзы.

2. Перасьцерагчы Белкаапсаюз, Белсельсаюз і іншыя арганізацыі, якія не падалі сваечасова вестак, што ў выпадку паўторнай непадачы зьвестак—Гандлю справы павінны быць безадкладна накіраваны Пракурору для прыцягненьня вінаватых да адказнасьці.

Вык. аб. Старшыні Эканамічнай Нарады пры СНК БССР **С. Карп**

1 верасьня 1928 году. («Савецкая Беларусь» 6-X-28, № 231).

## Пастанова Праўленьня БКС.

1) Абвясьціць выгавар Праўленьням Саюзаў: Бабруйскага Віцебскага, і ЦРК: Віцебскага, Магілеўскага, Полацкага, Загадчыку н-Барысаўскага Аддз. і прапанаваць Праўленьню Гомсаюзу накласьці дысцыплінарную кару на Загадчыка Мазырскага Аддз.—за не прадстаўленьне дэкадных вестак па хлебных і сыр'явых апэрацыях.

2) Прапанаваць Оргкіраўніцтву тэрмінова напісаць аб гэтым арганізацыям адпаведны ліст з папярэджэньнем, што пры непрадстаўленьні імі належных ведаў ва устаноўленыя тэрміны—справы будуць передавацца Пракурору для прыцягненьня да адказнасьці у судовым парадку.

Дадатак да п. 2 пастановы Наркамгандлю БССР ад 27-га верасьня 1928 г. № 55 (апублікавана ў газэце „Савецкая Беларусь" за 28 верасьня 1928 г.

## Табліца памольнай платы натурай (зярном) за перапрацоўку зярна сялянскіх і іншых прыватных памольцаў на дзяржаўных коопэрацыйных і прыватных млынпрадпрыемствах і крупадзёрках

| ПРЫ ЗАГАТОЎЧАЙ КАНВЭНЦЫЙНАЙ ЦАНЕ НА ЗЯРНО | | Колькі кілёграм зярна спаганяецца за перапрацоўку 1 цэнтнэра збожжа | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | У гарадох | | | | | | | | | | У сельскіх мясцовасьцях | | | | | | | | | |
| | | На паравых, нафтавых і іншых мэханічных млынах | | | | | На вадзяных, ветраных і іншых не мэханічных млынах | | | | | На паравых, нафтавых і іншых мэханічных млынах | | | | | На вадзяных, ветраных і іншых не мэханічных млынах | | | | |
| За цэнтнэр | За пуд | Просты памол | Абойны 95 проц. | Пшан. аднагатункавы 80 проц. | Крупа простая 60—65 проц. | Крупа гатунковая 40—50 проц. | Просты памол | Абойны 95 проц. | Пшан. аднагатункавы 80 проц. | Крупа простая 60—65 проц. | Крупа гатунковая 40—45 проц. | Просты памол | Абойны 95 проц. | Пшан. аднагатункавы 80 проц. | Крупа простая 60—65 проц. | Крупа гатунковая 40—45 проц | Просты памол | Абойны 95 проц. | Пшан. аднагатункавы 80 плоц. | Крупа простая 60—65 проц. | Крупа гатунковая 40—45 проц. |
| **Памольная плата існаваўшая раней ў грашовай форме** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | 67 к. | 1 р. | 1р.41к. | 1 р. | 1р.34к. | 61 к. | 91 к. | 1р.26к. | 91 к. | 1р.21к. | 61 к. | 91 к. | 1р.26к. | 91 к. | 1р.21к. | 55 кі | 82 к. | 1р.17к. | 82 к. | 1р.10к. |
| **Памольная плата ўстаноўленая ў натуральнай форме (зярном)** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 5 руб. 80 к. | 95 к. | 11.5 | 17,0 | 24,5 | 17,0 | 23.0 | 10,5 | 15,0 | 21,5 | 15,0 | 21.0 | 10,5 | 15.0 | 21,5 | 15,0 | 21,0 | 9,5 | 14,0 | 20,0 | 14.0 | 19,0 |
| 6 „ 10 „ | 1 р. — „ | 11,0 | 16,5 | 23.0 | 16,5 | 22,0 | 10.0 | 15,0 | 20,5 | 15,0 | 20,0 | 10,0 | 15.0 | 20.5 | 15,0 | 20,0 | 9,0 | 13,5 | 19,0 | 13,5 | 18,0 |
| 6 „ 41 „ | 1 „ 05 „ | 10,5 | 15,5 | 22,0 | 15,5 | 21,0 | 9,5 | 14,0 | 19,5 | 14,0 | 19,0 | 9,5 | 14.0 | 19.5 | 14,0 | 19,0 | 8,5 | 13.0 | 18,0 | 13,0 | 17,0 |
| 6 „ 53 „ | 1 „ 07 „ | 10.5 | 15.5 | 21,5 | 15.5 | 20.5 | 9,5 | 14,0 | 19,5 | 14.0 | 18,5 | 9,5 | 14,0 | 19,5 | 14,0 | 18,5 | 8,5 | 12,5 | 18.0 | 12.5 | 17,0 |
| 6 „ 59 „ | 1 „ 08 „ | 10,0 | 15,0 | 21.5 | 15,0 | 20,5 | 9,0 | 14,0 | 19.5 | 14,0 | 18.5 | 9,0 | 14,0 | 19.0 | 14,0 | 18,5 | 8,5 | 12,5 | 17,5 | 12,5 | 16,5 |

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 „ | 72 „ | 1 „ | 10 „ | 10,0 | 15,0 | 21,0 | 15,0 | 20,0 | 9,0 | 13,5 | 18,5 | 13,5 | 18,0 | 9,0 | 13,5 | 18,5 | 13,5 | 18,0 | 8,0 | 12,0 | 17,5 | 12,0 | 16,5 |
| 6 „ | 84 „ | 1 „ | 12 „ | 10,0 | 14,5 | 20.5 | 14,5 | 19.5 | 9,0 | 13.5 | 18.5 | 13,5 | 17,5 | 9,0 | 13.5 | 18,5 | 13,5 | 17.5 | 8,0 | 12,0 | 17,0 | 12,0 | 16,0 |
| 6 „ | 90 „ | 1 „ | 13 „ | 10,0 | 14,5 | 20,5 | 14,5 | 19,5 | 9,0 | 13,0 | 18,5 | 13,0 | 17.5 | 9,0 | 13.0 | 18,5 | 13,0 | 17,5 | 8,0 | 12,0 | 17,0 | 12,0 | 16,0 |
| 7 „ | 02 „ | 1 „ | 15 „ | 9,5 | 14,0 | 20,0 | 14.0 | 19,0 | 8,5 | 13,0 | 18,0 | 13,0 | 17,0 | 8.5 | 13,0 | 18,0 | 13,0 | 17,0 | 8,0 | 11.5 | 16,5 | 11.5 | 15,5 |
| 7 „ | 14 „ | 1 „ | 17 „ | 9,5 | 14,0 | 19,5 | 14,0 | 19.0 | 8.5 | 12,5 | 17.5 | 12,5 | 17,0 | 8.5 | 12,5 | 17,5 | 12,5 | 17.0 | 7,5 | 11.5 | 16,5 | 11.5 | 15,5 |
| 7 „ | 20 „ | 1 „ | 18 „ | 9,5 | 14,0 | 19.5 | 14,0 | 18,5 | 8.5 | 12,5 | 17.5 | 12,5 | 17,0 | 8.5 | 12.5 | 17,5 | 12,5 | 17,0 | 7,5 | 11,5 | 16.0 | 11,5 | 15,5 |
| 7 „ | 33 „ | 1 „ | 20 „ | 9,0 | 13,5 | 19,5 | 13,5 | 18,5 | 8,5 | 12,5 | 17,0 | 12.5 | 16,5 | 8,5 | 12,5 | 17,0 | 12,5 | 16,5 | 7,5 | 11,0 | 16,0 | 11,0 | 15.0 |
| 7 „ | 45 „ | 1 „ | 22 „ | 9,0 | 13.5 | 19,0 | 13.5 | 18,0 | 8.0 | 12,0 | 17,0 | 12,0 | 16,0 | 8,0 | 12.0 | 17,0 | 12,0 | 16,0 | 7,5 | 11.0 | 15,5 | 11,0 | 15,0 |
| 7 „ | 51 „ | 1 „ | 23 „ | 9,0 | 13.5 | 19.0 | 13.5 | 18,0 | 8,0 | 12.0 | 16,5 | 12.0 | 16,0 | 8,0 | 12,0 | 16,5 | 12,0 | 16,0 | 7,5 | 11,0 | 15,5 | 11,0 | 14.5 |
| 7 „ | 57 „ | 1 „ | 24 „ | 9,0 | 13,0 | 18,5 | 13,0 | 17,5 | 8,0 | 12,0 | 16.5 | 12,0 | 16,0 | 8.0 | 12,0 | 16,5 | 12,0 | 16.0 | 7.5 | 11,0 | 15,5 | 11,0 | 14.5 |
| 7 „ | 63 „ | 1 „ | 25 „ | 9,0 | 13,0 | 18,5 | 13,0 | 17.5 | 8,0 | 12,0 | 16,5 | 12,0 | 16,0 | 8,0 | 12,0 | 16,5 | 12,0 | 16,0 | 7,0 | 10,5 | 15,5 | 10,5 | 14,5 |
| 7 „ | 75 „ | 1 „ | 27 „ | 8,5 | 13,0 | 18,0 | 13,0 | 17.5 | 8,0 | 11,5 | 16,5 | 11,5 | 15,5 | 8,0 | 11,5 | 16,5 | 11,5 | 15,5 | 7,0 | 10.5 | 15,0 | 10,5 | 14,0 |
| 7 „ | 81 „ | 1 „ | 28 „ | 8,5 | 13,0 | 18,0 | 13.0 | 17.0 | 8,0 | 11.5 | 16,0 | 11,5 | 15,5 | 8,0 | 11.5 | 16,0 | 11,5 | 15,5 | 7,0 | 10,5 | 15·0 | 10,5 | 14,0 |
| 7 „ | 94 „ | 1 „ | 30 „ | 8,5 | 12,5 | 17,5 | 12,5 | 17,0 | 7,5 | 11,5 | 16,0 | 11,5 | 15,0 | 7,5 | 11,5 | 16,0 | 11,5 | 15,0 | 7,0 | 10,5 | 14,5 | 10,5 | 14.0 |
| 8 „ | 06 „ | 1 „ | 32 „ | 8,5 | 12,5 | 17,5 | 12,5 | 16,5 | 7,5 | 11,5 | 15,5 | 11,5 | 15.0 | 7,5 | 11.5 | 15,5 | 11,5 | 15,0 | 7,0 | 10,0 | 14,5 | 10,0 | 13.5 |
| 8 „ | 12 „ | 1 „ | 33 „ | 8,0 | 12,5 | 17,5 | 12.5 | 16.5 | 7.5 | 11,0 | 15.5 | 11,0 | 15,0 | 7,5 | 11,5 | 15.5 | 11,0 | 15,0 | 7,0 | 10,0 | 14,5 | 10,0 | 13.5 |
| 8 „ | 18 „ | 1 „ | 34 „ | 8,0 | 12,5 | 17,5 | 12.5 | 16,5 | 7,5 | 11,0 | 15.5 | 11,0 | 15,0 | 7,5 | 11,5 | 15.5 | 11,0 | 15.0 | 6,5 | 10,0 | 14.5 | 10,0 | 13.5 |
| 8 „ | 24 „ | 1 „ | 35 „ | 8,0 | 12,0 | 17,0 | 12,0 | 16,5 | 7,5 | 11,0 | 15,0 | 11,0 | 14,5 | 7,5 | 11,0 | 15,0 | 11,0 | 14,5 | 6,5 | 10,0 | 14.0 | 10,0 | 13·5 |
| 8 „ | 55 „ | 1 „ | 40 „ | 8,0 | 11,5 | 16,5 | 11.5 | 15,5 | 7,0 | 10,5 | 15.0 | 10,5 | 14,0 | 7,0 | 10,5 | 15,0 | 10,5 | 14,0 | 6,5 | 9,5 | 13,5 | 9.5 | 13.0 |
| 8 „ | 85 „ | 1 „ | 45 „ | 7,5 | 11,5 | 16,0 | 11,5 | 15,0 | 7,0 | 10,5 | 14,0 | 10,5 | 13.5 | 7,3 | 10,5 | 14,0 | 10.5 | 13,5 | 6,0 | 9,5 | 13,5 | 9,5 | 12,5 |
| 9 „ | 16 „ | 1 „ | 50 „ | 7,5 | 11.0 | 15,0 | 11,0 | 14,5 | 6,5 | 10,0 | 14,0 | 10,0 | 13,0 | 6,5 | 10.0 | 14,0 | 10.0 | 13.0 | 6,0 | 9·0 | 13,5 | 9.0 | 12,0 |
| 9 „ | 46 „ | 1 „ | 55 „ | 7,0 | 10.5 | 15,0 | 10,5 | 14,0 | 6.5 | 9,5 | 13,5 | 9,5 | 12,5 | 6,5 | 9,5 | 13,5 | 9,5 | 12,5 | 6,0 | 8,5 | 12.5 | 8,5 | 11,5 |
| 10 „ | 07 „ | 1 „ | 65 „ | 6,5 | 10,0 | 14,0 | 10.0 | 13,5 | 6,0 | 9,0 | 12,5 | 9,0 | 12,0 | 6,0 | 9,0 | 12.5 | 9,0 | 12,0 | 5,5 | 8,0 | 11,5 | 8,0 | 11.0 |
| 10 „ | 38 „ | 1 „ | 70 „ | 6.5 | 9,5 | 13,5 | 9.5 | 13,0 | 6.0 | 8,5 | 12,0 | 8,5 | 11,5 | 6,0 | 8.5 | 12,0 | 8,5 | 11,5 | 5,5 | 8,0 | 11,5 | 8,0 | 10.5 |
| 10 „ | 56 „ | 1 „ | 73 „ | 6,0 | 9,5 | 13.5 | 9,5 | 12.5 | 5,5 | 8,5 | 12,0 | 8,5 | 11.5 | 5,5 | 8,5 | 12,0 | 8,5 | 11,5 | 5.5 | 7,5 | 11,0 | 7,5 | 10,5 |
| 10 „ | 68 „ | 1 „ | 75 „ | 6,0 | 9,5 | 13,0 | 9,5 | 12,5 | 5,5 | 8,5 | 12,0 | 8,5 | 11,5 | 5,5 | 8,5 | 12.0 | 8,5 | 11,5 | 5,0 | 7,5 | 11,0 | 7,5 | 10'5 |
| 10 „ | 81 „ | 1 „ | 77 „ | 6.0 | 9,5 | 13.0 | 9,5 | 12,5 | 5,5 | 8,5 | 11,5 | 8,5 | 11,0 | 5.5 | 8,5 | 11,5 | 8,5 | 11,0 | 5,0 | 7.5 | 11,0 | 7,5 | 10,0 |
| 10 „ | 87 „ | 1 „ | 78 „ | 6,0 | 9,0 | 13,0 | 9,0 | 12,5 | 5,5 | 8,5 | 11,5 | 8,5 | 11,0 | 5,5 | 8,5 | 11,5 | 8,5 | 11.0 | 5,0 | 7,5 | 11,0 | 7,5 | 10,0 |
| 10 „ | 99 „ | 1 „ | 80 „ | 6,0 | 9.0 | 13.0 | 9.0 | 12.0 | 5,5 | 8,5 | 11.5 | 8,5 | 11,0 | 5.5 | 8,5 | 11,5 | 8,5 | 11,0 | 5,0 | 7.5 | 10,5 | 7.5 | 10,0 |
| 11 „ | 29 „ | 1 „ | 85 „ | 6.0 | 9,0 | 12,5 | 9,0 | 12,0 | 5,5 | 8,0 | 11.0 | 8.0 | 11.0 | 5,5 | 8,0 | 11.5 | 8.0 | 11,0 | 5.0 | 7,5 | 10,5 | 7,5 | 10,0 |

Інструктар Наркамгандлю **Галкін**

Сакратар **Верабейчык**

